Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# Звязда

Газета выдаецца са жніўня 1917 года

Орган Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі, Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Беларускай ССР

16 мая 1991 г. ЧАЦВЕР

№ 94 (21622)

Цана 10 кап.

# ЗАЯВА
## Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі

Грамадска-палітычная абстаноўка ў рэспубліцы працягвае заставацца трывожнай. Глыбокія супярэчнасці раздзіраюць наша грамадства. Непрымірымую варожасць праяўляюць антыкамуністычныя сілы. Яны выстаўляюць жорсткія палітычныя патрабаванні, што закранаюць лёс нашай партыі, выступаюць супраць існуючага дзяржаўнага ладу.

У гэтых умовах Камуністычная партыя Беларусі паслядоўна абараняе канстытуцыйныя асновы сацыялістычнага грамадства, рэальна процістаіць яго капіталізацыі, рэстаўрацыі буржуазных парадкаў.

Вось чаму нямала абвінавачванняў і прамых пагроз чуваць у адрас камуністаў, робяцца злосныя спробы выключыць Кампартыю Беларусі з грамадска-палітычнага жыцця рэспублікі, паставіць яе па-за законам. На мітынгах, у радзе публікацый і выступленняў па радыё і тэлебачанні выстаўляюцца ультыматыўныя патрабаванні вывесці партыйныя арганізацыі з прадпрыемстваў, нацыяналізаваць маёмасць КПСС. Розныя ініцыятыўныя групы, якія падштурхоўваюцца антысацыялістычнымі сіламі, спрабуюць схіліць да гэтага грамадскую думку, арганізуюць «рэферэндумы» ў калектывах, выкарыстоўваюць маральны тэрор супраць членаў партыі, нагнятаюць атмасферу процістаяння і нецярпімасці. Аказваецца націск на народных дэпутатаў БССР з мэтай навязаць разгляд гэтых пытанняў на маючай адкрыцца 21 мая г. г. сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР і прыняцця антыдэмакратычных рашэнняў.

Цэнтральны Камітэт Кампартыі Беларусі заяўляе, што патрабаванні вываду парткомаў з прадпрыемстваў, нацыяналізацыі партыйнай маёмасці з'яўляюцца проціпраўнымі, антыканстытуцыйнымі. Яны супярэчаць агульнасаюзнаму і рэспубліканскаму заканадаўствам, не маюць юрыдычнай сілы і, як падкрэслена ва Указе Прэзідэнта СССР ад 23 красавіка г. г., не падлягаюць выкананню дзяржаўнымі і грамадскімі органамі, прадпрыемствамі, установамі, арганізацыямі і грамадзянамі.

Дэпартызацыя і дэпалітызацыя — гэта ўшчамленне аднаго з асноўных правоў чалавека — права на свабоду перакананняў. Такія патрабаванні супярэчаць не толькі савецкім законам, але і нормам міжнароднага права: Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, міжнароднаму пакту «Аб грамадзянскіх і палітычных правах», канвенцыі Міжнароднай арганізацыі працы «Аб свабодзе асацыяцый і абароне права на арганізацыю». Названыя міжнародныя акты абвяшчаюць права кожнага мець роўны доступ да дзяржаўнай службы ў якасці прадстаўнікоў палітычных партый або арганізацый.

З моманту рэгістрацыі Статута КПСС дзейнасць партыі, яе тэрытарыяльна-вытворчы прынцып будовы ахоўваюцца законам. ЦК Кампартыі Беларусі адстойваў і будзе адстойваць інтарэсы рабочага класа, сялянства, інтэлігенцыі, іншых катэгорый працоўных і правы пярвічных партарганізацый, у тым ліку і на вытворчасці, у працоўных калектывах. Мы разлічваем, што органы дзяржаўнай улады зробяць усё, каб абараніць камуністаў ад самавольства, спыняць разгул беззаконнасці.

Цэнтральны Камітэт Кампартыі Беларусі звяртаецца да ўсіх палітычных рухаў з заклікам адкінуць скарацечныя групавыя інтарэсы і прадузятасць, аб'яднаць намаганні на хутчэйшым пераадоленні сацыяльна-эканамічных цяжкасцей, на неадкладным аднаўленні і ўмацаванні канстытуцыйнага парадку ў грамадстве.

# АПОШНЯЯ ІНФАРМАЦЫЯ АД 18 ДА 18 СУТАК

МІНСК

## БУДЗЕ НОВАЯ ЭЛЕКТРАСТАНЦЫЯ

**ЗЭЛЬВА. (А. Дук). Пазбегнуць дэфіцыту электраэнергіі ў Гродзенскай вобласці дапаможа новая электрастанцыя, будаўніцтва якой намячаецца на базе вадасховішча «Зэльва».**

Праект электрастанцыі распрацавала рыжскае аддзяленне інстытута «Цеплаэлектрпраект». Кошт новай ДРЭС складзе прыблізна 800 мільёнаў рублёў, а яе магутнасць — каля 2 мільёнаў кілават.

Перад пачаткам будаўнічых работ неабходна яшчэ падняць узровень вады ў вадасховішчы на некалькі метраў. Плануецца таксама будаўніцтва пасёлка на 15 тысяч чалавек, цяплічнай гаспадаркі і завода па кансерваванню плодаагародніннай прадукцыі.

## ХОЦЬ ЮБІЛЕЙ ПРАЗ ШЭСЦЬ ГАДОЎ...

**ПІНСК. (С. Шапіра). Толькі праз шэсць гадоў пінчане будуць адзначаць 900-годдзе свайго горада, аднак падрыхтоўка да юбілею пачалася ўжо зараз.**

Тут адбылося пасяджэнне «круглага стала», на якім абмяркоўвалася, што трэба зрабіць да юбілейнай даты. Першачарговая задача — паскорыць рэстаўрацыйныя работы помнікаў культуры, якіх багата ў Пінску, узнавіць эстэтычнае асяроддзе ў стылі лепшых нацыянальных традыцый, адрадзіць славутыя палескія кірмашы, аднавіць і адкрыць для экскурсій участак старажытнага падземнага ходу.

## НА РАХУНАК КАМІТЭТА ПАМЯЦІ АДАМА МІЦКЕВІЧА

Аднымі з першых у Гродзенскай вобласці тры тысячы рублёў на рахунак Камітэта памяці Адама Міцкевіча пералічылі студэнты Гродзенскага універсітэта. Грошы зароблены імі ў час уборкі ўраджаю, у будаўнічых атрадах, частка з іх — камсамольскія ўзносы.

## НЕАБХОДНАСЦЬ, А НЕ ДАНІНА МОДЗЕ

Правядзенне прэс-канферэнцый і брыфінгаў у Савеце Міністраў БССР аб надзённых праблемах нашага жыцця, бягучым моманце, стане эканомікі рэспублікі стала ўжо добрай традыцыяй. Гэта засведчылі самі журналісты рэспубліканскага і саюзнага друку на брыфінгу, які праводзіў 14 мая першы намеснік Старшыні Саўміна рэспублікі М. Мясніковіч.

Ён расказаў аб эканамічнай сітуацыі ў рэспубліцы, аб тых надзвычайных захадах, якія робіць урад па вываду эканомікі з крызіснага стану, мерах сацыяльнай абароны насельніцтва. Адным словам — коратка растлумачыў асноўныя палажэнні антыкрызіснай праграмы, што будзе неўзабаве прадстаўлена рэспубліканскаму парламенту і апублікавана ў друку.

— Антыкрызісная праграма — гэта не даніна модзе, — адзначыў М. Мясніковіч. — Сёння патрэбны экстранныя меры па стабілізацыі эканомікі.

Не пагадзіцца з гэтым нельга. Бо за першыя тры месяцы сёлетняга года аб'ёмы вытворчасці знізіліся на 3 працэнты, а за красавік — аж на 5,6 працэнта. Вытворчасць тавараў народнага спажывання таксама падае. Зусім няпроста ідзе пасяўная кампанія. Напрыклад, на 12 мая бульбы пасаджана 68 працэнтаў, яравых пасеяна — 78.

Можна задацца пытаннем — а што ж робіць урад рэспублікі? Зусім нядаўна была прынята пастанова аб прыярытэтным развіцці вёскі і прадпрыемстваў аграпрамысловага комплексу. Становіцца на ногі фермерская гаспадарка — сёння налічваецца ўжо 340 фермераў, якім аддадзена 7 тысяч 300 гектараў зямлі. Расце колькасць прыватных зямельных участкаў, развіваецца калектыўнае садаводства. Людзі хочуць атрымаць зямлю, і ім трэба ісці насустрач. Але, як зазначыў Міхаіл Уладзіміравіч, участкі выдзяляюцца вельмі цяжка, бо ўсё ўпіраецца ў кансерватызм мясцовых улад і кіраўнікоў гаспадарак. Вось і ў антыкрызіснай праграме прыярытэт аддадзены сельскай гаспадарцы, павелічэнню вытворчасці прадуктаў сяла.

Было таксама адзначана, што ў корані трэба перагледзець аплату працы ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі, смялей ісці на прыватызацыю, наладжваць знешнеэканамічную дзейнасць. Адным словам — развіваць не на словах, а на справе рынгачныя адносіны. Гэтыя і іншыя палажэнні і ляглі ў аснову антыкрызіснай праграмы. Цяпер слова за парламентам і, вядома ж, за людзьмі. Як прымуць яны гэтыя неадкладныя меры.

**А. ЗАЙКОЎСКІ.**

*Мікалай РЫЖКОЎ:*

# «Я БУДУ ЗМАГАЦЦА...»

**Развіццё падзей у нашай краіне ў многім будзе залежаць ад зыходу барацьбы за прэзідэнцкае крэсла Расіі. Як вядома, сярод прэтэндэнтаў на гэту пасаду і Мікалай Іванавіч Рыжкоў. 14 мая ў Акадэміі грамадскіх навук ЦК КПСС ён сустрэўся з журналістамі на прэс-канферэнцыі. Думаецца, і чытачам «Звязды» будзе цікава ведаць пункт погляду папулярнага ў Саюзе палітычнага дзеяча на сітуацыю ў краіне.**



**М. Рыжкоў:** Разгарнулася барацьба за прэзідэнцтва ў Расіі. Я прыняў рашэнне ўступіць у яе. Чаму? Чалавек, які быў на працягу 5 гадоў Старшынёй Саўміна, пазнаў усе «прыгажосці» палітычнага жыцця—і раптам зноў уступае ў барацьбу?

Год назад, у сакавіку, на нечарговым З'ездзе народных дэпутатаў СССР, калі побач з кандыдатурай Гарбачова вылучылі і мяне, я зняў сваю кандыдатуру. Я цвяроза ацэньваў тады свой крок, бо была прадстаўлена праграма ўрада і мой абавязак — выканаць яе. Прайшоў год, сёння іншая сітуацыя. Я бачу, у якім стане краіна ў цэлым, Расія. Становішча крызіснае, надзвычайнае. Галоўнае—спад не спыняецца, а наадварот, крызіс паглыбляецца. Да мяне звярнуліся многія таварышы—падумай, можа, нягледзячы на тое, што ўжо выпрабаваў уладу, нягледзячы на хваробу (дарэчы, першую публічную хваробу кіраўніка дзяржавы), можа, згодзішся зноў выйсці на палітычную авансцэну.

Пасля роздуму я палічыў сваім грамадзянскім абавязкам не стаяць у баку ад барацьбы, нават надзвычай жорсткай. Я імкнуся да перамогі.

Справа не ў прозвішчах, не трэба супастаўляць сёння Ельцына, Бакаціна, Рыжкова. Справа —у дзеянні. Народ павінен выбраць—каму ён верыць і давярае. Такі дэмакратычны падыход—правільны. Вось прычыны, якія прымусілі мяне даць згоду. Я буду змагацца да апошняга. Ніякіх самаадводаў не будзе. У нас з Ельцыным розныя стартавыя ўмовы. У яго ёсць адпрацаваныя структуры ўлады, а ў мяне—толькі што створаная ініцыятыўная група, у якую ўвайшлі на грамадскіх пачатках мае аднадумцы.

Шмат прапаноў паступае ад людзей, якіх я нават і не ведаю. Па апошніх даных, каля 500 калектываў вылучылі маю кандыдатуру—практычна ва ўсіх абласцях, краях і рэспубліках Расіі. Сабрана ўжо каля 600 тысяч подпісаў. Зараз працуем над сваёй праграмай, у якой будзе ўлічана ўсё карыснае з былой праграмы ўрада мая 1990 года, праграмы Вароніна і іншых. Павінна быць барацьба не асоб—хто больш гучна крыкне, а па сутнасці.

Я не збіраюся падстройвацца ні пад якую праграму — ні пад дзеянні Паўлава, ні пад дзеянні ўрада Расіі, ні пад шэраг палажэнняў Прэзідэнта краіны, па якіх у мяне ёсць свая думка. Я не збіраюся яе хаваць. А ўжо падабаецца яна або не—гэта справа народа.

Два—тры тэзісы маёй праграмы. Першае. Павінна быць у рэшце рэшт стабілізацыя ў грамадстве. Інакш мы не ў стане далей жыць. Другое. Выхад з крызісу — часткова праз рынгачныя механізмы, часткова праз дзяржаўнае рэгуляванне. Мы павінны забяспечыць таксама сацыяльную абароненасць народа ва ўмовах пераходу да рынку. Сёння гэта праблема нумар адзін. Калі мяне пытаюць, на каго я спадзяюся, я заўсёды адказваю: на тых 95 працэнтаў простых людзей, якім патрэбна дзяржаўная дапамога, а іншыя 5 працэнтаў пражывуць і без нашай дапамогі.

Наконт цэн. Тут, на маю думку, перагнулі палку. Рэформу цэнаўтварэння трэба было праводзіць у 1988 годзе, тады яна каштавала б 100 мільярдаў рублёў. У маі 90-га года, калі на мяне абрушыўся вал крытыкі,—160 мільярдаў, а цяпер гэта ўжо каштуе звыш 300. Асабліва балюча рэформа ўдарыла па сем'ях, што можа прывесці да зніжэння нараджальнасці. Лічу памылкай мяркуемае ўвядзенне свабодных цэн на асноўную прадукцыю. Гэта самазабойства. Прадукты харчавання павінны мець гранічныя цэны, інакш хутка па ўсёй краіне мяса будзе каштаваць 50 рублёў, як зараз у Маскве. І апошняе. Трэба ствараць упэўненасць у людзей, якія цяпер ні ў што не вераць. У сваёй барацьбе буду абапірацца на рабочых, сялян, інтэлігенцыю, на асноўную масу працоўных краіны.

**— Вашы адносіны да антыкрызіснай праграмы ўрада?**

— Гэта не праграма, а дэкларацыя. З шэрагам палажэнняў не згодзен—напрыклад, з прынцыпам цэнаўтварэння. Не бачу канкрэтных мер па спыненню спаду вытворчасці. Залішне аптымістычна разглядаюцца пытанні прыватызацыі жылля.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.

# «Банк гарантуе, але не для ўсіх»

Матэрыял, які з'явіўся ў газеце пад такім загалоўкам 29 сакавіка, выклікаў даволі бурную рэакцыю некаторых чытачоў, для якіх стала праблематычнай ці ўвогуле немагчымай 40-працэнтная кампенсацыя іх цяперашніх ці былых зберажэнняў. І абурэнне такіх укладчыкаў, «грэх» якіх заключаецца ў тым, што яны не ведалі, ды і не маглі ведаць наперад, дзеянняў урадавых органаў і з той ці іншай нагоды закранулі (вядома, з адпаведнымі вынікамі) свае банкаўскія зберажэнні ў сакавіку, можна зразумець. Між іншым, і ў матэрыяле былі пэўныя пытанні...

Аднак, здаецца, некаторым з тых, каму не пашанцавала ўчора, лёс, а дакладней — банк, усміхнецца сёння. Як паведамілі ў праўленні Беларускага рэспубліканскага банка Ашчадбанка СССР, апошнім прыняты дапаўненні да раней выдадзеных дакументаў, згодна з якімі права на кампенсацыю грашовых зберажэнняў атрымала большасць укладчыкаў.

У прыватнасці, з улікам першапачатковых умоў, яно захоўваецца таксама:

калі ў перыяд з 1 па 25 сакавіка ўклад быў пераафармлены на бліжэйшых сваякоў: мужа, жонку, дзяцей, унукаў (нагадваем, што 1 сакавіка — ракавы тэрмін: па стану на гэта чысло і вырашана было кампенсаваць уклады, а 25 сакавіка амаль супадае з іншай датай, калі з'явіўся адпаведны Указ);

калі ў гэты ж перыяд рахунак быў закрыты, але за кошт яго ўзяты разліковы чэк. Пры гэтым, каб атрымаць кампенсацыю, чэк трэба вярнуць да 1 ліпеня ў адпаведнае аддзяленне банка. Калі ж ён ужо выкарыстаны, то тут, як кажуць, не свеціць нічога. Прынамсі, яшчэ невядома, хто выйграў: той, хто атрымаў кампенсацыю на свой чэк ці той, хто набыў ужо за яго тавар...

калі рахунак быў закрыты, а на грошы (зноў-такі: з 1 па 25 сакавіка) куплены казначэйскія абавязацельствы або сертыфікаты і калі яны былі здадзены на захоўванне;

калі з 1 па 25 сакавіка быў афармлены новы ўклад, але за кошт аблігацый пазыкі 1982 года, якія захоўваліся ў банку.

Такім чынам, можна павіншаваць асобных укладчыкаў. У прыватнасці: жыхарку Смалявіч Л. Ермаковіч, ад якой, дарэчы, у пісьме ў рэдакцыю дасталося крыху і аўтару матэрыялу «Банк гарантуе...» Ёй спатрэбіліся грошы, і яна 6 сакавіка закрыла «тэрміновы» ўклад. Узяўшы энную суму, паклала астатнія на двухпрацэнтны... Як запэўнілі ва ўпраўленні банка, згодна з указанымі дапаўненнямі, Л. Ермаковіч цяпер можа разлічваць на 40-працэнтную кампенсацыю апошняга свайго рахунку.

Што датычыць іншага аўтара (Г. Такарэвіч з Маладзечна) — з пісьма не зразумелыя ўсе зыходныя ўмовы, пры якіх «распісваўся» ў сакавіку ўклад яе (ці яго?) бацькоў. У гэтым выпадку трэба звярнуцца ў сваё аддзяленне банка, дзе павінны ўжо атрымаць тыя ж дапаўненні. Можа, і не безвынікова.

Адным словам, аўтару (ці аўтарцы) прадастаўлена яшчэ адна магчымасць выпрабаваць свой лёс...

Можна было б і закончыць на гэтай аптымістычнай ноце... аднак, шчыра кажучы, не вельмі цягне на такое — перашкаджаюць асобныя пытанні. Скажам: ці не занадта ўжо любяць у нас паказытаць нервы? А іменна, няўжо ўсе ўмовы і вынікі таго ці іншага мерапрыемства нельга прадугледзець адразу? Гаворка ж часта ідзе пра рэчы, далёка не жартоўныя для нашага радавога савецкага грамадзяніна, які без вялікага энтузіязму глядзіць у заўтрашні дзень. Ці тут своеасаблівы прыём: спачатку аглушыць, потым ашчаслівіць...

Прынамсі, не будзем капрызіць: хутчэй у банк за кампенсацыяй. Пакуль той не перадумаў...

**І. БАРАНОЎСКІ, кар. «Звязды».**

## Указ Прэзідэнта Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік

**Аб узнагароджанні тав. ШАМЯКІНА І. П. ордэнам Дружбы народаў**

За вялікі ўклад у развіццё савецкай літаратуры і плённую грамадскую дзейнасць узнагародзіць пісьменніка **Шамякіна Івана Пятровіча** ордэнам **Дружбы народаў.**

**Прэзідэнт Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік М. ГАРБАЧОЎ.**

Масква, Крэмль. 14 мая 1991 г.

## Мітынг ў інстытуце

**Усё менш дзён застаецца да 21 мая, калі адкрыецца сесія Вярхоўнага Савета БССР. Людзі звязваюць з ёй надзеі на прыняцце актуальных прававых актаў, накіраваных на стабілізацыю сацыяльна-палітычнай і эканамічнай абстаноўкі ў рэспубліцы.**

Аб сваіх надзеях, звязаных з будучай сесіяй Вярхоўнага Савета, на мітынгу ў Беларускім інстытуце фізічнай культуры 14 мая ўсхвалявана гаварылі і выкладчыкі, і студэнты.

У прынятым на мітынгу звароце калектыву інстытута да Вярхоўнага Савета рэспублікі змяшчаецца заклік да народных дэпутатаў розных напрамкаў і перакананняў, у тым ліку і да апазіцыі, на канструктыўнае вырашэнне вострых праблем. Выказана думка, што забастоўкі і стачкі не дапамагаюць выхаду з крызіснага становішча, што ўсе спрэчныя пытанні трэба вырашаць канстытуцыйным шляхам.

Каменціруючы гэту падзею, рэктар інстытута прафесар Віктар Сакалоў сказаў:

— Паверце мне, гэта быў мітынг, які ніколькі не нагадваў тыя фармальныя сходы, што праводзіліся ў нядаўнія часы. Ініцыятыва ішла не ад кіраўніцтва інстытута або грамадскіх арганізацый, а ад саміх студэнтаў. Справа ў тым, што яна закладзена ў генетычным кодзе нашых выкладчыкаў і студэнтаў. Дабіцца высокіх вынікаў у спорце без цяжкасцей — немагчыма. Адсюль і псіхалагічная накіраванасць усяго калектыву — трэба працаваць, а не мітынгаваць. І заканамерна, што ў тыя красавіцкія дні, калі студэнты шэрагу мінскіх ВНУ стварылі свой гарадскі стачком, нашых студэнтаў сярод іх не аказалася.

(Кар. БЕЛТА).

Мінск.

## Пастанова Вярхоўнага Савета СССР

### АБ ПАРАДКУ ЎВЯДЗЕННЯ Ў ДЗЕЯННЕ ЗАКОНА СССР «АБ УНЯСЕННІ ЗМЯНЕННЯЎ У ЗАКОН СССР «АБ УСЕАГУЛЬНЫМ ВОІНСКІМ АБАВЯЗКУ»

Вярхоўны Савет СССР **пастанаўляе:**

1. Увесці ў дзеянне Закон СССР «Аб унясенні змяненняў у Закон СССР «Аб усеагульным воінскім абавязку» з моманту апублікавання.

2. Перавод на двухгадовы тэрмін абавязковай ваеннай службы правесці ў 1991—1992 гадах, захаваўшы ў гэты перыяд трохгадовы тэрмін абавязковай ваеннай службы для матросаў і старшын караблёў, суднаў і берагавых часцей баявога забеспячэння Ваенна-Марскога Флоту і марскіх часцей пагранічных войск, прызваных на абавязковую тэрміновую ваенную службу або пераведзеных з іншага віду (роду войск) Узброеных Сіл СССР да 1 студзеня 1991 года.

**Старшыня Вярхоўнага Савета СССР А. ЛУК'ЯНАЎ.**

Масква, Крэмль. 12 мая 1991 г.

## Зона асаблівай увагі



# Пытанне, вядома, цікавае...

Працягваюцца вясенне-палявыя работы ў... зоне жорсткага радыяцыйнага кантролю.

Год назад жыхары Малінаўкі, што ў Чэрыкаўскім раёне, пакінулі родную вёску. А на землях саўгаса «Сцяг», палавіна ўгоддзяў якога спісана, было створана навукова-вытворчае аб'яднанне «Надзея». Цяпер на землях, якія засталіся ў абароце, вырошчваюць фуражнае зерне, узровень забруджвання якога ў 2—3 разы перавышае гранічна дапушчальны. У абмен на гэта зерне аб'яднанне атрымлівае чыстае насенне, якое вясной зноў кладзецца ў забруджаную радыяцыяй глебу.

На жаль, выпадак гэты не адзінкавы. Падобная інфармацыя паступае і з Гомельскай вобласці. Як доўга яшчэ мы будзем збіраць ураджаі з забруджаных угоддзяў, перапрацоўваць іх у камбікармы, а затым купляць радыеактыўныя мяса і малако ў нашых магазінах? Пытанне гэта гучыць пакуль што рытарычна. Але за яго вырашэнне нясуць адказнасць зусім канкрэтныя людзі, надзеленыя ўладай. Можа настаў час назваць іх імёны? А заадно—пакласці канец такому сумнаму гаспадаранню.

**На здымку:** узровень забруджанасці зерня, на адгрузцы якога працуюць гэтыя хлопцы, перавышае гранічна дапушчальны ў 2,5 раза.

**С. ЖАЛУДОВІЧ. (БЕЛТА).**

ЧАС ПАДПІСАННЯ У ДРУК: ПА ГРАФІКУ 21.05, НУМАР ПАДПІСАНЫ У 21.05.

